# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 40 (1534) ГОД XXX БЕЛАСТОК 6 КАСТРЫЧНІКА 1985 г. ЦАНА 10 зл.

## ДЗЕЛЯ ЎЗАЕМНАГА ЗРАЗУМЕННЯ І ПАШАНЫ

**(РАЗМОВА З ЯЎГЕНАМ ЧЫКВІНЫМ — СТАРШЫНЁЙ БЕЛАСТОЦКАГА АДДЗЕЛА ХРЫСЦІЯНСКАГА АБ'ЯДНАННЯ (ХСС), КАНДЫДАТАМ У ПАСЛЫ СЕЙМА.**

„Ніва“: Паходзіце Вы з Орлі, невялічкага мястэчка на Беласточчыне. Як складваўся Ваш шлях да дыплома магістра-інжынера?

Мгр. інж. Яўген Чыквін: Хаця я і нарадзіўся ў Орлі, але мае бацькі Вера і Рыгор паходзяць з малых вёсачак з-пад Белавежскай пушчы. Як магу спамянуць, у нашай сям'і заўсёды панавала пашана да навукі. Мо таму, што бацькі не атрымалі ніякай адукацыі. Падобна як ва ўсіх сем'ях нашага рэгіёна, заўсёды яны напаміналі пра шанцы, якія стварыў сацыялістычны лад для моладзі, шанцы, якіх не мелі бацькі, затое маюць дзеці. Мае бацькі паходзілі з вельмі бедных сем'яў, у якіх да канца вайны не было ніякіх магчымасцей палепшыць сваё жыццё. Памятаю, матуля расказвала, як у 20-х гадах у іхняй вёсцы масава паміралі дзеці. Захварэла таксама і яна, тады некалькігадовае дзіцянё. Лекар сказаў, што гэта запаленне лёгкіх і патрэбны лякарствы. У бацькі, ваеннага інваліда, не было ні граша, і лекар параіў прыкладваць цёп-

(Працяг на стар. 4)



Яўген Чыквін




### ЭГАІСТЫ? П'ЯНІЦЫ?

Аўрора пісала, што трэба падумаць, каб добра напісаць у „Ніву“, але сама напісала не падумаўшы („Ніва“, 25 жніўня). Напісала, што ўсе мужчыны эгаісты. Каб Аўрора напісала, што ўсе жанчыны эгаісткі, то я таксама бараніў бы іх. Сёння ў нас многа п'юць, але не ўсе мужчыны п'яніцы і эгаісты. Ёсць і жанчыны, што вып'юць больш за мужчыну. Нядобра глядзець на п'янага мужчыну, а на п'яную бабу яшчэ горш. Многія пары лоўка жывуць і нямнога п'юць, але і вясёла жывуць, калі абое п'юць. Кобру згуляюць, ёсць на што паглядзець. Адносіны высвятляюць кулакамі, зараз жа і цалуюцца. Калі хто спытае такую жанчыну, чаму ў яе сінякі пад вачыма, кажа: — А то я ўпала з драбіны.

Што некаторыя мужчыны многа п'юць, гэта часам залежыць ад жанчыны. Каб мужчына быў добры і слухаўся, трэба быць добрай жанчынай; а каб была добрая жанчына, трэба быць добрым мужчынам. Не заўсёды адно другога кахае. Жанчыны часам выходзяць замуж, каб змяніць прозвішча, каб не быць старой паннай. Іншая хоць спачатку не любіць, але прывыкне і пасля палюбіць, а другая прывыкне да суседа і на мужыка не звяртае ўвагі, што ён п'е, яшчэ часам кагосьпадштурхне, каб мужыка напаілі. Часам хтось запросіць калегу ці сваяка на кілішак. Калі даведаецца аб гэтым жонка, прыбяжыць туды з вырачанымі вачыма, з растапыранымі ноздрамі і, зашчаміўшы кулакі, крычыць: — Ты п'яніца, лайдак, курва!!!

Усім стане сорамна і злосна. Бо, значыць, яны ўсе лайдакі?... Жонка пойдзе сама, яшчэ сені замкне, тады мужчына кажа: — Так, туды тваю маць?! Давайце, хлопцы, на маё конта яшчэ паўлітроўку. Заўтра ў хаце немцы ў касках і пахмелка. — А бывае і так. Выпіваю я з маладымі мужчынамі. Прыходзіць па мяне жонка. Крыху пасмейваецца і кажа: — Хадзі хутчэй дахаты, бо ты патрэбны. Зноў сабе пойдзеш.

А адзін кажа: — Каб так пані Хлябічова з намі выпіла кілішак?

Жонка кажа: — Чаму не, ано каб не поўны!

І выпіла. Прыходзім у хату, пытаю, нашто мяне клікала, а яна кажа: — Каб не ўпіўся, бо някораша быць п'янаму і галава

(Працяг на стар. 4)



## ВОСЕНЬ

Коцік! Хадзем пагаворым.

Павярнулі.

Бяроза здрыганулася. Дождж за каўнерам, на твары.

Усміхаюцца. Доўгая грыўка падае на нос. Ён кідае галавою, быццам палахлівы жарабчык.

Смяюцца.

Трымаюцца моцна за рукі, быццам баючыся, што згубяцца пасярод агалелых дрэваў, дрыжачых пад халодным ветрам. Вецер шалее, трасе чорныя косы бяроз, уздымае ў паветра прыліпшае да зграбянелай травы лісце, лапоча поламі пальтаў.

А яны — смяюцца.

Насця паглядзела на апусцеўшую каля сябе лаўку.

Уздыхнула. Узяла ў паморшчаную, халодную руку свой сукач і патэпала па чорным асфальце алейкі.

**Міра Лукша**

Фота Рамана Сянько

# НА МЯЖЫ

## АБ НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ І ДЗЯРЖАЎНАСЦІ (VI)

З вялікай прыкрасцю хачу сказаць, што трапілі мне ў рукі дакументы аднаго выдатнага беларускага паэта, у якіх не знайшлося найдрабнейшага паўслова аб яго нацыянальным radaводзе. У аўтабіяграфіі не сказаў ён нават словам аб беларускай прыналежнасці ці аб беларускай роднай мове. Гэта яшчэ не ўсё. Пералічыў ён сярод творчых дасягненняў усе свае зборнікі. І гэта зусім лагічна. Творчасць павінна быць прадметам гордасці аўтара і няма найменшага сэнсу яе замоўчваць. Гора, аднак, у іншым. Паэт не толькі не сказаў, што яго творчасць беларуская, але, падаючы назвы зборнікаў, затаіў іх беларускае гучанне і падаў іх польскія назвы, хаця яны па-польску ніколі не публікаваліся. Чалавек, які не ведае гэтага паэта, чытаючы яго дакументы, будзе перакананы, што мае дачыненне з чыстакроўным палякам. І няма сумненняў, што якраз гэта было галоўнай мэтай гэтага паэта. Падумайма, ці ж гэта не ганебна? Ганебна і ілжыва. Справа ў тым, што такія біяграфічныя даныя, як нацыянальнасць, родная мова, а тым болей мова творчасці належаць да вельмі элементарных сцвярджэнняў. І зразумела, што ў афіцыйных дакументах павінны яны быць пададзены згодна з праўдай. Значыць, наш аўтар абалгаў нашу дзяржаву і, на добрую справу, павінен быць прыцягнуты да адказнасці. Думаю, што дарагія чытачы маглі б і самі прывесці падобныя нядобрыя прыклады.

Я ўжо некалькі гадоў быў даслоўна зашакаваны, калі чытаў інтэрв'ю ў газетах або слухаў выказванні некаторых дзеячоў у тэлебачанні, якія, будучы кроў з крыві і косць з касцей беларусамі, заяўлялі, хаця іх да гэтага ніхто не прымушаў, — мы палякі, мы палякі. І дзеецца гэта ў краіне — Народнай Польшчы, якая з аднолькавай пашанай і талерантнасцю адносіцца да ўсіх нацыянальнасцей. І дзеецца так нягледзячы на тое, што ў 1982 годзе генерал Ярузельскі ў Сейме выразна сказаў, што Народная Польшча шануе ўсе нацыянальныя меншасці і што стварае ім магчымасць для захавання і развіцця сваёй нацыянальнай спецыфікі.

Дык у чым справа? Хто нам перашкаджае паводзіць сябе годна і горда? Чужыя? Не, перш за ўсё перашкаджаюць беларусам самі беларусы — і ў гэтым заключаецца наша драма.

Некаторым з нас можа здавацца, што мы здабудзем пашану і павагу з боку чужых, калі будзем адракацца ад свайго роднага і дэклараваць прывязанасць да чужога. Такое разуменне з'яўляецца трагічным. Ніхто і ніколі не будзе шчыра шанаваць чалавека, які адракаецца ад свайго і далучаецца да чужога. Такі чалавек адразу выклікае падазрэнне, а пасля і пагарду. Бо і хто ж можа шанаваць або верыць чалавеку, які не шануе і не верыць у сваё роднае? Ніхто! Вядома, што чалавек, які здрадзіў свайму і далучыўся да чужога, пры найбліжэйшай нагодзе, калі прыйдзе да вываду, што гэта для яго карысна, здрадзіць гэтаму чужому, далучаючыся да наступнага чужога. Такіх людзей называюць пагардліва рэнегатамі. Іх чужыя заўсёды будуць выкарыстоўваць ды ніколі не будуць паважаць.

**Алесь Барскі**

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## УНІКАЛЬНАЕ ВЫДАННЕ

Аддзелы і кнігарні падпісных выданняў упраўленняў кніжнага гандлю Дзяржкамвыда БССР і Белкаапсаюза пачалі падпіску на „Гісторыю беларускага мастацтва" ў шасці тамах. Гэтае унікальнае выданне, якое выпускае „Навука і тэхніка", упершыню ў беларускім мастацтвазнаўстве абагульняе і асэнсоўвае шматвяковы шлях развіцця выяўленчага мастацтва і архітэктуры з сівой мінуўшчыны па сённяшні дзень.

Першы том ахопіць разгляд твораў канца XVI стагоддзя. У другім будзе аналізавацца беларускае мастацтва XVII—XVIII стагоддзяў, у трэцім — XIX — пачатку XX стагоддзяў.

Наступныя тры тамы прысвечаны савецкаму перыяду. У чацвёртым храналагічна ахопліваюцца 1917—1941 гады. Творам перыяду Вялікай Айчыннай вайны і першага пасляваеннага дзесяцігоддзя прысвечаны пяты том. У заключным разглядаюцца шляхі развіцця выяўленчага мастацтва і архітэктуры на сучасным этапе.

Усе тамы будуць багата ілюстраваны. Мяркуецца, што „Гісторыя..." выйдзе ў 1986—1993 гадах.

## МУЗЕЙ У ЛУЦКАЎЛЯНАХ

Стварэнне культурна-спартыўнага комплексу завершана ў вёсцы Луцкаўляны Гродзенскага раёна адкрыццём гістарычна-краязнаўчага музея. У дзвюх яго залах прадстаўлена некалькі тысяч экспанатаў аб жыцці сялян у мінулым, аб цяперашніх справах вядомай у рэспубліцы калектыўнай гаспадаркі, якая носіць імя былога старшыні Героя Сацыялістычнай Працы П. Дзеншчыкова. Частка матэрыялаў прысвечана тым, хто дапамог усталяваць у вёсцы новыя грамадскія адносіны, а таксама знатным землякам — акадэміку Я. Карскаму, былому наркому асветы БССР А. Баліцкаму, генерал-маёру Герою Савецкага Саюза М. Грыгаровічу, сакратару Гродзенскага падпольнага гаркома камсамола перыяду Вялікай Айчыннай вайны Вользе Соламавай.

У комплекс увайшлі таксама Цэнтральны дом культуры, клубы-філіялы, чатыры бібліятэкі, гандлёва-бытавы цэнтр, філіял музычнай школы, стадыён, крытая спартыўная зала, стралковы цір.

Такія цэнтры дзейнічаюць ужо ў 25 населеных пунктах Гродзеншчыны.

## СПОРТ

✲ Савецкія веласіпедысты атрымалі перамогу на чэмпіянаце свету па шасейных гонках у Італіі. Яны былі лепшымі ў каманднай 100-кіламетровай гонцы. У складзе каманды выступаў і беларускі спартсмен з Оршы Ігар Сумнікаў.

✲ Баскетбалісткі юніёрскай зборнай СССР заваявалі званне чэмпіёнак першага чэмпіянату свету сярод дзяўчат, які праходзіў у амерыканскім горадзе Каларада-Спрынгс (штат Каларада): У фінальным матчы яны перамаглі каманду Паўднёвай Карэі — 80:75. За зборную краіны выступала і спартсменка з мінскага „Гарызонта" Алена Ксёнжык.




Stanisław Stefan Szadziński — Możliwości i uwarunkowania rozwoju funkcji turystycznych doliny górnej Narwi. Ośrodek Badań Naukowych, Białystok 1984, str. 192, V. Cena 160 zł.

W. Czerepica — Związki rewolucjonistów Białorusi i Polski w latach 70—80 XIX wieku. Państwowe Wydawnictwo Naukowe, Warszawa 1985, str. 158. Cena 160.

Władysław Kuraszkiewicz — Ruthenica. Studia z historycznej i współczesnej dialektologii wschodniosłowiańskiej. Komitet Językoznawstwa PAN, PWN, Warszawa 1985, str. VIII, 314, tablice, mapy. Cena 400 zł.

Zbigniew Podgórzec — Wokół ikony. Rozmowy z Jerzym Nowosielskim. „PAX", Warszawa 1985, str. 200. Cena 160 zł.

Stefan Maria Kuczyński — Król Jagiełło ok. 1351—1434. Wydawnictwo MON, Warszawa 1985, str. 188, XVI, mapa. Cena 140 zł.

Województwo białostockie, łomżyńskie, suwalskie. Mapa krajoznawczo-samochodowa. Wyd. 7. 1:500 000. Państwowe Przedsiębiorstwo Wydawnictw Kartograficznych Warszawa — Wrocław 1984/85. Cena 40 zł.

**П. Байко**




## ПАСТЫР ЗБІРАЕ НОВУЮ ПАСТВУ

Збігнеў Бжэзінскі пасля нядоўгага маўчання зноў падаў голас. Гучаў ён гэтым разам не так упэўнена, у ім амаль адсутнічалі катэгарычныя інтанацыі, уласцівыя гэтаму тэарэтыку антыкамунізму. І ўсё ж. Перш за ўсё ў сваіх выступленнях, якія шырока перадавалі заходнія падрыўныя радыёстанцыі на польскай мове, былы памочнік прэзідэнта ЗША па нацыянальнай бяспецы прызнаў, што „Салідарнасць" не магла перамагчы. Чаму? З-за сваіх, аказваецца, памылковых канцэпцый.

Пан Бжэзінскі паводзіць сябе, як той няўдалы трэнер, які, калі яго дружына выйграе, гаворыць „я перамог", а калі прайграе, то пераконвае, што гэта „яна прайграла". Так што, калі гаварыць аб чыіхсьці „памылковых канцэпцыях", трэба перш за ўсё высветліць, адкуль гэтыя канцэпцыі ўзяліся і хто іх сапраўдны аўтар?

Яшчэ задоўга да таго, як з'явілася „Салідарнасць", у Белы дом, Пентагон і ЦРУ быў прадстаўлены сакрэтны „даклад аб Польшчы", аўтарам якога значыўся З. Бжэзінскі, (пасля ўрыўкі з гэтага даклада з'явіліся ў друку).

Якая ж была канцэпцыя аўтара даклада ў той час? Цытуем:

„Польская апазіцыя, якую падтрымлівае каталіцкая царква, павінна фармавацца ў асноўным з людзей, якія настроены празаходне, якія маюць вопыт барацьбы супроць існуючага ладу. Арганізаваная на базе паўафіцыйных і нелегальных груповак апазіцыя здольна сфармаваць ліберальны рух народнага супраціўлення, прыцягваючы рабочых, сялян, інтэлігенцыю і студэнтаў".

Заўважым, што „Салідарнасць" вельмі дакладна кіравалася гэтымі ўстанаўленнямі. І што ж? Не выйшла. Духоўнаму пастыру польскай контррэвалюцыі вельмі не хочацца ў гэтым прызнацца, і ён, хаваючыся ў карчах, нацкоўвае на новыя правакацыі супроць сацыялістычнай Польшчы.

Якія ж „канцэпцыі" прапануюцца гэтым разам? Бжэзінскі павучае: маўляў, сёння ў Польшчы можна дабіцца змены дзяржаўнага ладу толькі эвалюцыйным шляхам, усыпляючы чуйнасць сацыялістычнай дзяржавы. Нельга, напрыклад, адкрыта крытыкаваць рашэнні Ялцінскай канферэнцыі, не трэба адкрыта падтрымліваць парадкі ў капіталістычных краінах і г.д. Іншымі словамі, гаворка ідзе аб паступовым і эластычным „размыванні сацыялізма". Дык у гэтым няма нічога арыгінальнага.

Яшчэ ў 1971 годзе амерыканскія палітолагі У. Кінтнер і У. Клайбер пісалі:

„Вопыт паказаў, што надта шпаркія змены вядуць да правацыравання мер у адказ з боку Савецкага Саюза і яго саюзнікаў... тады як паступовыя і не надта прыкметныя змяненні могуць з часам разрастацца".

Ды і сам аўтар „новай тактыкі з-за карчоў" у тым жа „дакладзе аб Польшчы" заклікаў не да неадкладнага знішчэння камунізма, а да паступовага выкарыстання акрэсленых сродкаў, „маючых на мэце ўмацаваць апазіцыю і аслабіць гэткім чынам камуністычную партыю".

Для чаго ж Бжэзінскі зноў вынаходзіць ровар? А для таго, каб не забывалі, хто першым сказаў „Ацю іх!" Мяркуючы па апошніх выступленнях, Бжэзінскі ўжо не разлічвае на сваіх ранейшых „сябраў" і гатоў рабіць стаўку на новых, па яго славах, „больш гнуткіх". Словам, пастыр збірае пад старыя, палінелыя сцягі новую паству.

**М.М.**

## Паўторнасць непаўторнага

432

Цяжка дамагацца ад старых людзей новых ісцін.

433

Змагацца са злом пры дапамозе дабра прапануюць тыя, супраць якіх гэта зло не накіравана.

434

Няма бяды, калі зайздросціш шчаслівым і прагнеш, каб іх шчасце перайшло і да цябе. Бяда, калі прагнеш, каб твае няшчасці перайшлі да іх.

435

На жаль, сіла аргументу часта праігрывае з аргументам сілы.

436

Некаторыя людзі паступаюць так, быццам чалавецтва выдзелілася з грамадства малпаў толькі ўчора і толькі да заўтра.

437

Калі прагнеш, каб твае дзеці мелі зацішак і песню, высекшы адно дрэва, пасадзі два.

438

Духоўная зняволенасць беларусаў праяўляецца ў нашай любві да тых, хто намі пагарджае.

439

Нянавісць, якую кіруем у адрас зла, павінна мець сваю меру; калі яе перакрочым, сама становіцца злом.

440

Чалавек з добрай памяццю, але дрэнным мысленнем заўсёды будзе ісці назад, лічачы, што ідзе наперад.

441

Трактуй, як малыя глупствы, свае мары аб вялікасці.

442

Калі любіш аграмаднасць пушчы, ніколі не ламі мізэрнага парастка дрэўца.

443

Пасаджанае табою адно дрэўца болей значыць для лесу, чым сто гімнаў, праспяваных у яго гонар.

444

Пасадзі дрэва, і пераканаешся, што ўсё жыццё будзеш расці разам з ім.

445

Калі хочаш кожнай вясной квітнець, а восенню фруктаваць — садзі сады.

446

Чалавекалюбец пазычае ад іншых пры сведках, а аддае без іх, чалавеканенавіснік — наадварот.

447

Бывае, што ў малой галаве ёсць многа месца для вялікіх глупстваў.

448

Памылка многіх людзей заключаецца ў тым, што перспектыву сваёй будучыні звязваюць яны толькі з марамі, а не з працай.

449

Вялікае злачынства — забойства чалавека з'яўляецца дробяззю ў параўнанні з забойствам праўды.

450

Калі, як Паганіні, не будзеш шукаць у творчасці кантакту з д'яблам, ніколі не напішаш боскага верша.

451

Інтэнсіўна думаючы аб затрыманні бегу часу, толькі яго прысяшаеш.

**Алесь Барскі**

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 317

## МАСТАЧКА

*Марыі Корсак прысвячаю*

Як кветка з глебы, вырвана з карэннем,
З душою рамантычнаю Марыся.
Няздзейсненыя мары, летуценні
У надта чулым сэрцы засталіся.

Так цесна ім зрабілася надзвычай,
Што безупынна ціснуліся вонкі,
А з імі свет дзіцячы таямнічы
І каларыт радзімае старонкі.

Іх паўстрымаць было ўжо немагчыма,
Іх прамаўчаць — не стала паратунку,
Усё, што ўваскрасала прад вачыма —
У казачных радзілася малюнках.

А маляванне — творчая стыхія,
Імкненні сэрца чулага жанчыны.
Мастачка самародная Марыя
Мары жыццця перадае ў карцінах.

**Віктар Швед**

## АДЛЯТАЕ ЛЕТА

Адлятае на поўдзень лета
Разам з буслами ў сумным палёце,
Я крычу „да пабачэння!" лету
На зялёным духмяным пракосе.

Я махаю рукою птушкам,
Заміраючым на небасхіле...
„Вы ляціце, ляціце, ляціце...
І вяртайцеся да нас, мілыя".

Мы сустрэнем вас, вы пазнаеце
Свае добрыя гнёзды-хаты.
Зноў адвечны бор заспявае,
Адгукнуцца яму сенажаці.

А цяпер заціхаюць далі,
Залатая восень настала —
Ад зялёнай кароны таполі
Ветрам першы лісток адарвала.

Адарвала і закружыла
Сіраціна ў чыстым полі;
Не, не вернецца год растрачаны,
Як загінуўшы ліст таполі,
Восень... восень у полі.

**М. Варанецкі**

# Маналог






*Фота З. Вальтэра*

## МІКОЛА ДАВІДЗЮК

*Мікола Давідзюк нар. у 1944 г. у вёсцы Уснарычына — на Беласточчыне. У 1963 г. закончыў Беларускі ліцэй у Гайнаўцы, затым паступіў у Вышэйшую школу мастацтваў у Лодзі, якую закончыў у 1969 г.*

*Дэбютаваў на выстаўцы „Наймалодшае пакаленне" ў 1969 г. (Варшава).*

*Пастаянна займаецца жывапісам і рысункам. Жывапісныя працы экспанаваў на дзевяці персанальных выстаўках (першая ў 1976 г. у Варшаве). Прымаў удзел таксама ў шматлікіх выстаўках агульнакраёвых, рэгіянальных і міжнародных (каля 30).*

*Ад 1971 г. працуе ў майстэрні жывапісу на Аддзяленні графікі лодзінскай Вышэйшай школы мастацтваў Спачатку асістэнтам і старшым асістэнтам, ад 1980 г. ад'юнктам.*

— І што ж мы адзін пра другога ведаем? Ну, сябры... й усё. Выпадкова сустрэліся, то й разыдземся, кожны ў свой бок. Вядома ж, у кожнага свае справы. Кожны ж штосьці там вечна за пазухай хавае перад другім. ... Ты ж толькі паглядзі сам, тыя нашы сябры! Як жа яны пазмяняліся. — Адны гандляры-махляры... й усё толькі нейкія гешэфты ладзяць.

Як абшмаруюць цябе, браток, па-за плячыма, страх і падумаць! Калі прыдзецца выпадкова азнаёміцца са сваёй біяграфіяй — адзін жах. Чаго ж там толькі й не знойдзеш: і што п'яніца, і што абібок, а нават і дэгенерат. Усур'ёз усё гэта — не думай! Так, браток, напаскудзяць ... і дзе ж у іх сумленне, які ж сэнс... усяго гэтага?

... Падзарабіў я крыху граша ў апошні час — не сакрэт — ну, павязло! Але, ведаеш, так неяк здарылася, што прапіў з сябрамі — усютка, дачыста. Што ж, з кожным можа здарыцца. — Хоць, калі так сабе падумаю, бо й сапраўды, як доўга можна такое вытрымаць — робіцца страшна. Уяві сабе сам: сёння зальеш чарвяка... й каб да заўтра неяк дацягнуць, ну, а заўтра ўсё ж як быццам ад пачатку. ... Шукаю сэнсу таго ўсяго бо што ж жыць так, абы толькі жыць?

Падумаецца нат часам, што ўсё гэта ад адзіноцтва, пэўна. Адзінюсенькі ж я на гэтым свеце. — Жанчына нейкая, усялякія тыя справы... Ну, калі б незалежная, такая, як я сам, у сэнсе інтэлектуальным, зразумела. А так, што ж... усё чакае твае падтрымкі, калі якраз трапіш на нейкую бездапаможную сіротку. Хоць, праўда, пробаваў я ўжо й гэткага шчасця. Ну, але нічога з таго не атрымалася і цяпер, прызнаюся табе шчыра, проста баюся.

Наведаў мяне апошнім часам Пятро — ты ж яго, мусіць, памятаеш? Які ён цяпер сур'ёзны. ды й акуратненькі зрабіўся. Быццам і не той самы. Пагутарылі мы з ім хвілінку, хоць неяк афіцыйна. Да таго ж, як на якое ліха, выйшла ў мяне не надта прыемная справа, якой быў ён якраз выпадковым сведкам. Збянтэжыўся, вядома ж, а й мне няма аб чым гаварыць, — не было прыемна... Развіталіся мы холадна.

Падумай сам, ён жа мой найлепшы сябар. Во, маеш табе й дружбу!

Намаўляў ён мяне, праўда, каб я змяніў асяроддзе, мо ў Варшаву, кажа, бо тут жа акружаюць мяне адны дэгенераты... Ну, калі нат і не дэгенераты, то напэўна гаўнякі!

Яно то й сапраўды, бадай, так будзе, бо калі на той прыклад да інтэлігента прыстанеш — кепска. З рабацягай зоймешся — таксама. Нізашто ты з ім не знойдзеш супольнай плашчадкі. Ты гаворыш яму, гаворыш, а ён дзюбу разявіць і ніяк не цяміць, пра што ты талкуеш. Ну, а з інтэлігентам вядома: ты яму сваё, а ён табе сваё. Выходзіць на тое, што ён праў, а й ты праў таксама. Ну, і ўсё — вэрхал гатовы!

Андрэй, кажуць, жэніцца. Чуў? Сустрэў я яго не так даўно. Такое да яго, здавалася б. не падобнае, а ўсё ж такі, бачыш, як людзі змяняюцца.

Яшчэ хіба толькі, калі працую, адчуваю сябе сяк-так. Уся ж рэшта, прыватнае жыццё, так званае, — пакаламуцілася, ой як пакаламуцілася, проста лабірынт.

Так, па праўдзе кажучы, у мяне тут сякія-такія ўмовы, як на кавалера, нат і не благія. Выехаць і ўсё так раптам пакінуць, крыху. аднак, шкада. Усюды ўжо пробаваў. з аднолькавым за кожным разам вынікам.

... Калі б так нехта схацеў чалавека зразумець часам — хоць бы й невялікае тое шчасце. не вымагаю я замнога. Ці ж не так?

**Мікола Давідзюк**

(Працяг са стар. 5)

## ДЗЕЛЯ ЎЗАЕМНАГА ЗРАЗУМЕННЯ І ПАШАНЫ

які я ўзначальваю. Хоць працуецца нам нялёгка, але мы імкнемся, каб наш часопіс служыў праваслаўным і дапамог усяму грамадству краіны бліжэй пазнаёміцца з праваслаўем і пазбыцца нярэдка беспадстаўных суджэнняў аб праваслаўі.

„Н“.: На спатканнях з выбаршчыкамі Вы падкрэсліваеце, што Беласточчына — гэта край розных веравызнанняў і нацыянальнасцей. Як вы ў сваёй будучай дзейнасці як пасол, калі Вас выберуць, і дзеяч ХСС будзеце адносіцца да спраў і патрэбаў беларускай нацыянальнай меншасці?

Я.Ч.: Я перакананы, што кожная культура — гэта вялікая каштоўнасць для агульнапольскай культуры і страта яе была б непапраўнай стратай. Краса, прыгажосць — у разнастайнасці. Возьмем прыклад. Чым былі б Бяшчады без лэмкаўскіх царковак, або чым была б Беласточчына без беларускіх вёсак, драўлянага будаўніцтва, народнай песні — без усяго таго, што называем беларускай культурай? Культура краіны без гэтага была б збедненай. Таму лічу неабходным захоўванне і развіванне традыцый беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы і ў яе карысць буду заўсёды працаваць паводле маіх сіл і магчымасцей.

„Н“.: Дзякую за размову.

Гутарыў **М. Гайдук**
Фота аўтара

(Працяг са стар. 4)




каню: — Цябе з падворка варта прагнаць. Бо вяліка рэч вазіць ці араць. А я ноччу дом сцерагу, а днём кароў пільную.

Конь выслухаў сабаку і сказаў:— Каб не я, то табе не было б чаго сцерагчы.

**Так што адной меркай усіх мужчын і жанчын не варта мераць. Адны і другія розныя. Калісь Ісусу Хрысту дзяўчына паказала дарогу нагой, лежачы на мяжы, а парабак падбег хуценька і паказаў рукой. Ісус Хрыстос сказаў:**

**— Гэта дзяўчына будзе тваёй жонкай, бо каб былі абое такія, як яна, то ніц не выйшла б.**

**Ф. Хлябіч**

### БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Жонка не лапаць, з нагі не скінеш.

*

З ліхім чалавекам і гадзіна векам.

*

Людзі навучаць, як жыць на свеце.

*

**Мужык з жонкай сварыцца — у гаршку трасца варыцца.**

# КАРЦІНЫ НАРОДЖАНЫЯ СЭРЦАМ

Выпадкова даведаўся я ад знаёмых, што ў Варшаве на вул. Нецала (6, кв. 22), якая прытулілася да гістарычнага Саскага агарода, насупраць славутага будынка Вялікага тэатра, ад многіх гадоў пражывае беларуская жанчына, вядучая прадстаўніца наіўнага мастацтва. Цікава мне было яе ўбачыць і пазнаёміцца з ёю. І вось сустракае мяне на парозе сваёй кватэры шчуплая, высокая, у акулярах, энергічная яшчэ і вясёлая жанчына.

Пераступіўшы парог кватэры мастачкі і прывітаўшыся, задаю ёй пытанне: „Ці можам размаўляць па-беларуску?“ „З прыемнасцю, — адказвае з усмешкай на твары, — я заўсёды чакаю сустрэчы з землякамі.“

Кідаю позірк на абшырны пакой, абвешаны і абстаўлены цікавымі творамі мастачкі. Ля дзвярэй аграмадная яркая карціна, прадстаўляючая варшаўскі барбакан. Над сталом — эпізоды з варшаўскіх вуліц. Найбольшае, аднак, маё зацікаўленне выклікаюць малюнкі беларускіх краявідаў, што жывуць у памяці і сэрцы мастачкі праз усё яе жыццё.



Марыя Корсак.

Толькі мы прыселі ля стала, як пачалася цікавая размова.

Марыя Дубовік (надта паэтычнае беларускае прозвішча) нарадзілася ў 1908 годзе ў вёсцы Падгор'е, у гміне Шчорсы, сённяшняга Навагрудскага раёна. Бацькі гаспадарылі на трох гектарах зямлі і стольких жа гектарах падмоклага наднёманскага луга. Потым крышку разбагацелі і набылі хутар, якому прыдумалі прыгожую назву Вінніца. У сям'і было васьмёра дзяцей, і Марыся, як найстарэйшая, выняньчыла тры сястры і чатырох братоў, працуючы летам у полі і на лузе, а ў доўгія зімовыя вечары ткучы, шыючы і вышываючы вопратку, абрусы і ручнікі і співаючы беларускія народныя песні. У школу хадзіла толькі адну зіму, нягледзячы на велізарнае жаданне вучыцца грамаце, а асабліва маляванню, да якога мела выключныя здольнасці. Ужо ў сямігадовым узросце грыфелем на чорнай плітцы, што тады ўжываліся ў школе замест сшыткаў, нарысавала сваю бабулю, якая была так падобная да жывой, што дзедка не пазволіў сцерці рысунак і павесіў плітку нэ сцяне побач з іконай. На жаль, пазнаць таямніцы малявання ў маладосці ёй так і не ўдалося.

Перад другой сусветнай вайной выйшла замуж у Навагрудак, за Язэпа Корсака. Неўзабаве муж апынуўся ў польскай арміі Андэрса, ваяваў пад Монтэ-Касіна, дзе быў паранены. Пасля вайны прыехаў у Польшчу і пасяліўся ў Варшаве. Толькі ў 1958 годзе, пасля 19-гадовай разлукі, Марыі ўдалося пераехаць да мужа. Матэрыяльныя абставіны былі надта складаныя, муж зарабляў скромна, наймаў маленечкі пакойчык. Трэба было дапамагчы мужу здабыць кватэру.

Знаёмячыся з Варшавай, Марыя Корсак трапіла ў Нацыянальны музей. Карціны, якія там угледзела, так яе запалілі, што прыняла моцнае рашэнне: „Буду маляваць!“ Муж абурыўся: „Ты, мусіць, з глузду з'ехала. Каб маляваць, трэба закончыць мастацкую школу, пазнаць усе тайны гэтай творчай працы, а табе ж ужо паўвеку і калі ж тут вучыцца!“.

Неўзабаве, аднак, муж пераканаўся, што ад моцнага рашэння жонку не адвесці і памог ёй наладзіць сувязь з самадзейным мастацкім гуртком, дзе ад настаўнікаў - мастакоў пазнала тайны фарбаў і грунтавання палатна.

Мастакі-прымітывісты жывуць у нейкім умоўным легендарным свеце. Марыя Корсак жыве, аднак, у стыхіі народнага мастацтва. Яе мастацтва нарадзілася не з захаплення навакольным светам, а з усяго таго, з чым яна развіталася многа гадоў таму назад і што глыбока запала ў яе памяць і сэрца. Перасаджаная на варшаўскі грунт, яна тужыць за айчыннай беларускай зямелькай, за роднымі і блізкімі з гадоў яе дзяцінства і маладосці. І гэтая туга, якая замацавала ў памяці колішнія вобразы, прымушае пераносіць гэтыя вобразы на палотны, увасkрашаць даўні выгляд вясковай беларускай вуліцы з драўлянымі хаткамі і саламянымі стрэхамі, рэчку, масток, сажалку, у якой бацька намерваўся разводзіць рыбу і на беразе якой любіла адпачываць і марыць маладая Марыся.

Марыя Корсак кожны раз нанава стварае свой свет, спецыяльна робіць яго нечаканым і вясёлым. З рэальнага свету яна бярэ толькі дэталі, якія кладуцца на яе палотны вельмі дакладна і сіметрычна. Мастацтва М. Корсак мае многа супольнага з дыванамі, якія яна ткала ў маладосці.

Як сцвярджае мастачка, пачала яна маляваць у 1958 годзе. Выходзіць у пленер не з жывапісным станком, як гэта робяць мастакі, а рассцілае на асфальце ці бетоне цырату, кла-

# ПЕРШЫ ДЗЕНЬ У ШКОЛЕ

1

У нашай прасторнай хаце адбывалася надта важная падзея.

Сур'ёзная, як ніколі, мама з закасанымі рукавамі заканчвала мяне выціраць. Малодшы брат, Валодзька, прысеўшы каля абвязанай дротам балейкі ды ўбіўшы падбародак між калень, глядзеў на мяне квадратовымі вачыма. У кутку пад іконай сядзела цётка Кірыліха і раіла суседцы, як лепш сына адзець. Мама не надта яе слухала — моцнымі рукамі запіхвала мне ў кароткія штонікі кашулю з выбеленага кужалю. Пазашпіляўшы на кашульцы тры розныя гузікі, пачала мяне аглядаць з розных бакоў. Выгляд сына задаволіў яе, і мама з палёгкай уздыхнула. Затым узяла з лавы новы, яшчэ пусты ранец з бліскучымі пражкамі, дапамагла яго зашпіліць.

**Цётка Кірыліха аніяк не магла прымусіць загаварыць сёння так скупую на словы суседку** і звярнулася да Валодзькі:

— А ты на другой год пойдзеш?

— А хто будзе быдла пасвіць? — азвалася нарэшце мама. — Няхай пачакае, покуль старэйшы падвучыцца!... — І кажа мне: — Ну, а цяпер — каб настаўнік мне не скардзіўся, а то бацька ўсыпле! Ён не пацерпіць тваіх фокусаў!

Мама ў бакоўцы з-пад падушкі выняла хустку, развязала зубамі рог, падала залатоўку:

— Даю табе грошы — у школе будуць збіраць на падручнікі. Глядзі ж ты мне, грошы лічыць ужэ ўмееш!... Бо ў хаце іх няма!... Бацька на суд паехаў і ўсе забраў — нават на соль не пакінуў, толькі — табе на кніжкі!

Цётка Кірыліха вырашыла падбіць да мамы кліночак:

— Ах, хлопец у цябе — бы спелы гурочак на сонцы!

— О-о, ён у нас акура-татны! — з гонарам пацвердзіла мама.

**— То дала б шчэ пяць грошай на кухана — ісці так далёка, на цэлы дзень!...**

**— Абыдзецца і без булкі.** Шчэ яму марцыпанаў?... Хай кавалак хлеба возьме.

— Ты ўжэ не злуй!... Калі Нічыпар вернецца?

— А хто яго ведае!... Хай яе ліха, з той зямлёй: егдзіць, егдзіць, грошы столькі прасадзіў і — усё дарэмна! І на гэты раз нічога не чуваць, мо зноў ніц не высудзіў. Колькі сокаў выцягнула з нас гэтая зямля!...

Мама зноў звярнулася да мяне:

— Ні з кім не біся, а то я цябе ведаю!... І не вымажыся нідзе, бо табе што... Ну, ідзі. Не, стой! Цётко Кірыліхо, пераждагнайце яго на дарогу: вы столькі дзяцей вырасцілі, руку маеце лёгкую.

У незвычайнасці бабкі неаднойчы пераконваўся і я. Перад тым як пасадзіць квактуху, мама пасылала мяне да яе з яйкамі. Кожнае яйка цётка глядзела на святло, вызначала — пеўнік будзе ці курачка, і рэдка намылялася. [1])

**Я падставіў яшчэ лоб пад халодныя цётчыны грэбзы і толькі тады апынуўся на вуліцы. Валодзька забягаў мне то з аднаго, то з другога боку. Яму было незразумела, што будзе**

дзе на ёй палатно або картон, сама сядае побач і малюе. І так прадстаўляюць мастачку мясцовыя і замежныя кінахранікёды ў сваіх кінафільмах.

Калі мастачка недзе ў 1961 годзе выйшла ў пленер і, седзячы на бетоне, малявала Магілу невядомага салдата, да яе працы прыглядаўся нейкі іншаземец. Быў, гэта, як потым высветлілася, амерыканскі журналіст, які, захапляючыся мастацтвам Марыі Корсак, выпрасіў у яе дзве карціны. Неўзабаве спецыяльна прыехаў у Варшаву прадстаўнік вядомага ў свеце музея сучаснага мастацтва ў Маямі на Фларыдзе і за пасрэдніцтвам „Дэсы“ набыў 14 карцін мастачкі. У сакавіку 1963 года ў Маямі экспанавалася першая сусветная выстаўка малюнкаў Марыі Корсак, якія атрымалі станоўчую ацэнку крытыкаў. Пасля індывідуальных выставак у Маямі, Нью-Йорку і Парыжы карціны Марыі Корсак экспанаваліся на калектыўных выстаўках наіўнага мастацтва (між іншым, з карцінамі славутага Нікіфара) у Браціславе, Стакгольме, Рыме, Штутгарце, Боне, Гамбургу, Мюнхене, Кёльне, Турку, Спалета, Дзюсельдорфе, Крэфельдзе, Мілане, Буэнас-Айрэсе і ў іншых мясцовасцях свету. Адзін з зімніх беларускіх пейзажаў Марыі Корсак набыла міжнародная арганізацыя УНІЦЭФ і ў мільённых тыражах выдала яго ў форме навагодняй каляровай паштоўкі. Кіраўнікі розных замежных галерэй і выставачных салонаў запрашаюць Марыю Корсак на вернісажы, пакрываючы кошты падарожжа і гасціннай пабыўкі ў іх. Зацікаўленыя мастацтвам Марыі Корсак людзі прысылаюць з-за мяжы ёй пісьмы і прыязджаюць асабіста ў справе афармлення пакупкі яе малюнкаў.

Шкада, што ў нашай краіне вядучая прадстаўніца сучаснага наіўнага мастацтва астаецца ўсё яшчэ мала вядомай. Яе малюнкі экспанаваліся пакуль што толькі на адной індывідуальнай і некалькіх калектыўных выстаўках у Варшаве і Кракаве.

Два гады таму назад Марыю Корсак напаткала вялікае гора. Памёр яе муж, адзіная ў Варшаве блізкая ёй асоба. Надта ўражлівая жанчына перажыла гэта гора вельмі балюча. Перастала маляваць і сама цяжка захварэла. Аграмадная прага малявання перамагла, аднак, няшчасце. Марыя Корсак ізноў прыступіла да працы, акрыяла і надалей вычароўвае новыя карціны, народжаныя дасканалай памяццю, багатай душою і чуллівым сэрцам.

**Віктар Швед**



Адна з „беларускіх“ карцін Марыі Корсак.

Фота Зыгмунта Таргоўскага.




Дарагое Сэрцайка! Пішу табе неахвотна, перамагаючы сябе, бо не чакаю ад цябе рашэння маёй згрызоты, але я вымушана з кімсьці падзяліцца ёю. Выбрала цябе, тады слухай і судзі. У школе спадабаўся мне хлопец з майго класа. І я яму спадабалася. Мы сталі закаханай парай. Жыцця адзін без другога не ўяўлялі. Заўсёды трымаліся разам. Але нашае каханне жорстка праследавалі настаўнікі. У адчаі мы вырашылі адпомсціць ім, пакляліся: як толькі скончым школу — тут жа і пажэнімся, на злосць нашым праследвальнікам. І пажаніліся. Ды неўзабаве выявілася, што жыццёвыя цяжкасці куды больш закавырыстыя ад школьных. І разышліся. Адкажы: каму прад'явіць рахунак за разбітую сям'ю і астаўшагася без бацькі дзіцяці? Настаўнікам? Жыццю?

**Разбітая**

Юныя мсціўцы! Чалавеку заўсёды даводзіцца доўга вучыцца, здаваць экзамены, перш чым ён зможа поўнапраўна ўступіць у выбраную прафесію. А шлюбнае жыццё — адно з самых важных для чалавека жыццёвых амплуа; добрая сям'я — гэта твор чалавечага мастацтва. Вы кінуліся ў жаніцьбу без усякага атэстата сталасці, не прайшлі сапраўднай школы нарачоных, не прыгледзеліся адно да другога, не скарысталі з вопыту старэйшых. Таму і ваш рахунак, каму б вы яго не выпісалі, не будзе аплачаны.

**ч.в.а. Сэрцайка**




рабіць без брата — мы дагэтуль ніколі не разлучаліся.

— Алёшка, — папрасіў, — прынясі гуму з мястэчка на рагатку! Учора Сашка прыехаў адтуль і во-о-оякі кавалак прывёз! Якраз ішоў аўтамабіль. Сашка кажа: „Я дагнаў яго ды нажом — шах! — гума і адвалілася!“

Я падумаў — нядрэнна б і мне раздабыць матэрыял на рагатку.

Запэўніўшы брата, адаслаў яго дамоў ды пакрочыў у невядомае.

2

Блукаючы вачыма па рыжых ужо і апусцелых палетках з перасохлым бульбянішчам, я ўвесь аж калаціўся ад таго, што мяне чакала наперадзе.

Надта баяўся паліцыянтаў. Іх у маім Страшаве называлі вылюдкамі. Цешыла адно — паліцыянтаў было ўсяго чатырох.

Сціскалася сэрца ад страху, калі ўспамінаў яўрэяў. Іх у мястэчку жыло надта многа. Перад вачыма так і ўзнікала жудасная бочка, набітая ўсярэдзіне ржавымі цвікамі, куды яўрэі запіхваюць жывога чалавека: бочку качаюць і гэтак бяруць кроў для мацы. Пра ўсё падрабязна апавядала бабка. У яе над ложкам нават вісеў Габрусёк з-пад Заблудава, хлопчык калісьці памёр такой смерцю. Ужо адчуваў, як цвікі ўпіваюцца ў маё цела і я захлынаюся ўласнай крывёю...

І вось поўны такіх страхаў і хваляванняў, не сваімі нагамі прыбыў я ў мястэчка.

Покуль што небяспекі не было відаць. Імчалі некуды абыякава апранутыя і заклапочаныя людзі, важна крочылі паны і паўпанкі, грукацелі акаванымі абадамі па бруку фурманкі, але ніхто на мяне не звяртаў ніякай увагі...

Памалу страхі некуды дзяваліся, мяне ўжо агарнула цікавасць. Глядзеў я на ўсе вочы ды не мог надзівіцца.

„Гы, такія ладныя дамы, а дзе у іх гумны, хлявы? А чаму платоў няма?... І свінней не відаць, кароў, нават — ні адной курыцы! Як жа тут жывуць, чым кормяцца?!.“

Адкрыўшы ад здзіўлення рот, на хвіліну застыў я на тратуары, не верачы і сваім вачам. Ля самых маіх ног у конскіх яблыках нахабна гаспадарылі вераб'і і на людзей — ніякай увагі! Ды і прахожыя імі не цікавіліся.

Тут я пачуў сваё прозвішча.

Азірнуўся я ды ўрадаваўся — Ваня Кучынскі. Нядаўна ён пераехаў ад нас сюды жыць, а цяпер крочыў у школу таксама.

Ваня падаў руку, і мы падаліся далей.

Зноў я не адчуваў сваіх ног. На гэты раз хвалявала тое, што ў мяне тут жыве сябар, і ён, як з дарослым, са мной павітаўся за руку ды назваў маё прозвішча. На вёсцы для старэйшых я быў Нічыпараў сын, для дзяцей — Алёшка, але гэтак звярталіся да мяне ўпершыню.

Школа стаяла асабняком. Яе акружаў роўненька пастрыжаны плот з кустоў. Перад званком тут кіпеў мурашнік. Аж трымцела ў вачах ад рознакаляровых бантаў, чорнага бліскучага шоўку, сіняга і зялёнага плюшу — вопраткі выфранчаных панічоў. Рэдка хто-небудзь кідаў з іх цікаўны позірк на вясковага хлопца ў зрэбнай кашулі, які стаяў пад сцяной.

Ваня даўно некуды знік, а я ўсё не мог наглядзецца.

Вось перада мной лёталі дзве паненкі — прыгожыя, як анёлы. Адна з іх кусала на хаду булачку з макам, другая — залівалася смехам. У нейкі момант паненка так рэзка павярнулася, што ласунак выпаў з рук ды і пакаціўся па пяску. Анельчык расплакаўся. Ад сцяны я кінуўся да булкі, падняў яе, абцёр аб штонікі, працягнуў:

— На, не плач...

І тут убачыў, як у заплаканых вачах паненкі з'явілася гідлівасць да мяне. З абурэннем яна праказала:

— Навошта ты, хам, браў яе рукамі, як цяпер яе есці?...

— Хлоп! — таксама нядобразычліва дадала другая, і яны пайшлі.

Я са злосцю шпурнуў булку і падумаў: што цяпер мне рабіць? Але тут з'явіўся Ваня ды павёў мяне ў клас.

**Аляксей Карпюк**

[1]) Толькі праз трыццаць пяць гадоў я вычытаў у навуковым часопісе, што такія людзі цяпер — загадка для вучоных.

## Цікавінка

### НАША БУЛЬБА

У Польшчы марнуецца столькі бульбы, колькі разам збірае ўся Галандыя.

Кожны жыхар Польшчы з'ядае за год 160 кг бульбы. Палавіну ўсяе сабранае бульбы з'ядаюць свінні. 32 працэнты ворнай зямлі ў нас — гэта землі V і VI класаў, значыць жытне--бульбяныя. Няма іншай расліны, якая на такіх землях давала б большы плён, чым бульба.

Па збору бульбы займаем трэцяе месца ў свеце: пасля СССР і Кітая. Збіраем бульбы ў год вельмі няроўна. Раз 50 мільёнаў тон (1979 г.), раз — 26 мільёнаў тон (1980 год). У адзін год збіраем з гектара 180 цэнтнераў, у іншы 100 цэтнераў. Па ўраджаю бульбы з гектара мы вельмі далёка за, напрыклад, Галандыяй (385 ц.), Вялікабрытаніяй (366 ц.), ЗША (311 ц.).

Як у нас сабраную бульбу перахоўваюць? Перш за ўсё па-старому звычаю — у ямах. Вельмі мала ў нас бульбы перапрацоўваецца. І гэта галоўная прычына вялікіх затрат яе.

На што ў нас ідзе бульба? На: саджанцы, — 5—6 мільёнаў тон, ежу (разам з тым, што з'ядаюць самі гаспадары) — 5—6 мільёнаў тон, прамысловасць (у тым ліку і на прадукцыю гарэлкі) — 2,4 мільёны тон, экспарт — 500—600 тыс. тон. Гэтак званыя „планавыя" затраты бульбы (ёсць такое планаванне, а як жа!) сягаюць 7,5 мільёна тон. У „кепскія" гады марнуецца 1/4 сабранай бульбы. Вось так! А спрабуйце купіць крухмал, ці бульбу-пюрэ, якую хопіць заліць вадой, каб атрымаць смачную таўканіцу.

У бягучым годзе бульбу ў нас насадзілі на 2,1 мільёна гектарах. Па плану плёны павінны быць 184 ц з га, што дало б разам 40 мільёнаў тон бульбы. Таксама прадбачвае план, што ў гэтым годзе змарнуецца ў нас 12 працэнтаў, г. значыць, 4,8 мільёна тон. Свінні з'ядуць нібы 21 мільён тон. Прамысловасць возьме не больш 1,5 мільёна тон. Колькі бульбы пойдзе на манапольку — яшчэ не запланавана.

(авл)

## Куток практычных ведаў

■ Мяккую мэблю чысціць вільготнай шчоткай, не вельмі моцна прыціскаючы яе да паверхні тканіны, інакш пыл будзе толькі ўцірацца ў абіўку. Непаліраваную мэблю дастаткова абцерці вільготным, добра выціснутым шматком, а палітураваную — кавалачкам фланелі, крыху змочаным у шкіпінары, паліролі. Пафарбаваныя масляной фарбай прадметы мыюць цёплай вадой з нашатырным спіртам.

■ Забруджаныя скураныя пальчаткі трэба чысціць свежым малаком з пітной содай.




**Розгляды.** Трэцім актам вясельнага спектакля былі розгляды. У некаторых мясцовасцях усходняй Беласточчыны называўся гэты акт аглядзінамі або опатрамі. Розгляды адбываліся толькі ў тым выпадку, калі маладыя паходзілі з розных вёсак і калі сям'я маладой нічога не ведала аб стане гаспадаркі маладога. Галоўная мэта гэтых розглядаў заключалася ў тым, каб убачыць стан хаты і будынкаў маладога, даведацца аб колькасці жывёлы, якасці зямлі, колькасці членаў яго сям'і. Праўда, аб гэтым усім гаварыў многа маршалак у часе сватоў, аднак наогул бацькі дзяўчыны не вельмі верылі яго словам і інфармацыям. Было вядома, што маршалак мае права не толькі перабольшваць, але ўвогуле разыходзіцца з фактамі і праўдай.

Калі сватанне адбывалася амаль заўсёды вечарам, у розгляды бацькі маладой ехалі заўсёды ранiцай, бо толькі дзённае святло давала магчымасць дакладна агледзець гаспадарку. У розгляды наогул ехалі толькі бацькі маладой. Аднак у некаторых мясцовасцях ехала з бацькамі асоба, найбольш усёй справай зацікаўленая — маладая.

Найстарэйшыя жыхары Орлі, а таксама некаторых іншых вёсак гаварылі, што ў іх мясцовасцях некаторыя з гаспадароў вельмі ашукоўвалі бацькоў маладой, якія прыязджалі ў розгляды. Здараліся выпадкі, што падчас розглядаў бедныя гаспадары, каб не паказваць сваю старую хату, наймалі добрую хату ад суседзяў, прадстаўляючы яе гасцям як сваю ўласную. Зразумела, што ў такой сітуацыі трэба было выслаць па-за вёску адпаведнага чалавека, які нібыта выпадкова спатыкаў едучых бацькоў маладой і вёў іх у пазычаную хату. Калі ашуканцы-гаспадары гэтага не зрабілі, тады першы-лепшы жыхар вёскі, не ведаючы ў чым справа, накіраваў бы гасцей па ўласціваму адрасу.

Яшчэ часцей, чым наём чужых хат, на дзень розглядаў бацькі маладога пазычалі ад суседзяў і прыводзілі ў свае хлявы чужых кароў, коней ці авечак. На гэтым не заканчваліся ашуканствы. Калі ў маладога была вялікая сям'я, асабліва калі былі ў яго шматлікія браты і сёстры, тады на дзень розглядаў бацькі выганялі з хаты большую ці меншую колькасць дзяцей, або сваіх старых бацькоў. Такая практыка вынікала з таго факту, што знаходжанне дзеда ці бабкі ў сям'і маладога выклікала неабходнасць карміць непрадуктыўных людзей, што не магло падабацца будучай маладой гаспадыні. Яшчэ большай і горшай праблемай былі маладзейшыя браты і сёстры маладога. Было вядома, што сясцёр трэба будзе выдаваць замуж і даваць ім пасаг, а браты, дарослыя, будуць жаніцца і браць сабе частку гаспадаркі. У сувязі з гэтым дзяўчаты неахвотна ішлі замуж за хлопцаў, якія мелі вялікую сям'ю.

Гаспадары стараліся стварыць уяўныя доказы багацця і дастатку. Здаралася, што ў пунях укладалі снапы толькі ў два радкі, каб яны дасягалі стропу. У вялікія пустыя бочкі ўстаўлялі ўверх дном бочкі меншыя і пасля гэтага засыпалі збожжам, так, каб выглядалі яны быццам былі напоўнены да берагоў зернем. У полі замест сваіх вузкіх загонаў паказвалі, як свае, шырокія загоны суседзяў.

Зразумела, што такія ашуканствы прымяняліся толькі надобрасумленнымі гаспадарамі. Аднак драбнейшыя камбінацыі рабілі амаль што ўсе. Кожны хацеў паказаць сваю гаспадарку з як найлепшага боку. Здараліся выпадкі, што пасля некалькіх дзён непрыязныя ў адносінах да такіх гаспадароў суседзі даносілі бацькам дзяўчыны аб тым, што іх ашукалі. Але здараліся і такія выпадкі, што толькі пасля шлюбу маладая даведвалася аб тым, што стала ахвярай маны.

Бацькі маладой у часе розглядаў праяўлялі асаблівую зацікаўленасць і бесцырымоннасць. Заглядалі ў мяшкі ў свірнах, адкрывалі кублы ў каморах, адкрывалі сундукі з адзежай, нават заглядалі ў гаршкі.

Мая маці расказвала, што маці яе маладой сяброўкі, паехаўшы ў розгляды, сапраўдны стан сям'і маладога адкрыла на падставе колькасці драўляных лыжак на прыпеку. Гаспадары сказалі, што іх сям'я складаецца з шасці асоб. І гэта інфармацыя знаходзіла пацвярджэнне ў колькасці тых асоб, якія знаходзіліся ў хаце. Аднак на прыпеку знаходзілася дванаццаць драўляных лыжак. Прыціснутыя гаспадары прызналіся, што іх сям'я складаецца з дванаццаці чалавек і што дзеда і бабу, а таксама чатырох братоў і сясцёр маладога яны выправілі да суседзяў.

**А. Баршчэўскі**




### ЗЁЛКА АД „ТАЯМНІЧАЙ" ХВАРОБЫ

Бабулька ніколі не хавала ў таямніцы свае веды пра лячэбныя ўласцівасці зёлак. Якраз наадварот, нягледзячы на вялікі скептыцызм бацькі, намагалася перадаць іх як мага болей. І таму нічога дзіўнага, што аднойчы мяне моцна ўразіла спроба „затойвання" размовы з маладой жанчынай і маўчанне на маё пытанне: на што гэтая здаровая асоба ўзяла гэтак многа бядрынцу? Кожная таямніца або недагаворанасць інтрыгуе і надоўга застаецца ў памяці. Таму доўгі час кожную кнігу пра лячэбныя расліны пачынаў я чытаць з апісання бядрынцу. На жаль, у агульнадаступнай літаратуры нічога цікавага ці таямнічага я не знайшоў. Высветліць таямніцу дапамаглі толькі старыя лячэбнікі. Аказваецца, што той таямнічай хваробай, якой не хацела здрадзіць бабулька і якая ў кнігах зашыфраваная словамі „і іншыя", — гэта непажаданая цяжарнасць! У народнай медыцыне адным са спосабаў пазбыцца непажаданага дзіцяці было выклікаць заўчасныя роды якраз пры дапамозе гэтай расліны. У гэтым месцы, мабыць, я расчарую чытачоў, бо не напішу, як гэта рабілася. Зрэшты, жывём мы ў палове васьмідзесятых гадоў дваццатага стагоддзя, і за такой паслугай, бадай што, цяпер не ходзяць да бабулек. Ды і нашто прапагандаваць тое, што медыцына прызнала беспаспяховым?

У нашым клімаце растуць тры віды бядрынцу: у агародах гадуюць бядрынец-аніс, у лясах і лугах сярод лясоў расце бядрынец вялікі, а на сухіх лугах, абочынах, пры дарогах і на межах — бядрынец каменяломкавы. Аніс — гэта прыправачная расліна, бядрынец вялікі выступае пераважна надта рэдка, а гаспадарчае і лячэбнае значэнне мае бядрынец каменяломкавы (лацінская назва — Pimpinella Saxifraga, biedrzeniec mniejszy — па-польску, бедренец камнеломковый — па-руску).

Гэтую расліну ўжо сотні год скарыстоўваюць у кулінарыі. Лісці прыгодны для нарыхтоўкі зялёных салатаў як з самога бядрынцу, так і змешаных, напрыклад, з лісцем крапівы, дзьмухаўца, медуніцы лекавай (лацінская назва — Pulmonaria obscura, miodynka — па-польску) і іншых. Кветкі бядрынцу кладуць пры засолцы агуркоў або памідораў. Насенне яго раўнацэннае насенню кмену або анісу і ўжываецца ў пякарстве. З лісця і карэння або толькі з карэння бядрынцу нарыхтоўваюць прыправы да страваў. Лісце і карэнне бядрынцу трэба памыць і прапусціць цераз машынку для малацця мяса, пасаліць (50 грам солі на 1 кілаграм перамолатай масы) і пакласці ў слоікі. Гэта прыправа сярэдняй вастрыні, яна прыгодна да розных страваў. Болей вострую прыправу нарыхтоўваюць з аднаго карэння. Карэнне трэба высушыць, пакрышыць, змалоць у млынку для кавы, дадаваць да мясных і рыбных страваў.

Змолатае карэнне бядрынцу можна скарыстаць як лячэбны сродак. У даўнія часы яго прымянялі супраць чумы і халеры. У сучаснай медыцыне яго лічаць лякарствам, прыгодным пры вострых і зацяжных бранхітах і запаленчых станах верхніх дыхальных шляхоў, няўступчывым коклюшы з малой колькасцю макраты, ангіне. Хатнім спосабам можна нарыхтаваць напаранне з сухога карэння бядрынцу ў прапорцыі: палова гарбатняй лыжачкі сцёртага карэння на адну шклянку вады, піць па чацвёртай або трэцяй частцы шклянкі 2—3 разы ў дзень, або паласкаць горла пры ангіне. Прымочкі з соку са свежага карэння калісьці прыкладвалі да пігментавых плямаў на скуры, каб іх пазбыцца.

Карэнне бядрынцу збіраюць восенню.

**Б. Паскробка**

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Янген Волкаў

## У ДЗЯЦІНСТВЕ Я ЛЁТАЎ

Было мне тады восем гадоў. Памятаю, быў ясны сонечны дзень, і ад асляпляючага сонца клумбы ў парку нібы гарэлі.

Мы з татам ішлі па гарадскім парку. Я то падскокваў спераду, то спыняўся і чакаў тату. Бо ён жа нёс пад пахай мой ровар, толькі што куплены ў краме. Рама і руль веласіпеда былі запакаваны ў паперу, але гэта не перашкаджала мне цешыцца падарункам.

Па дарозе трапіўся нам хлопчык гадоў чатырох. Ён трымаў у руцэ самалёцік і круціў яго, жужжаў, уяўляючы, што самалёцік сам ляціць. Але я ўжо ведаў тады, што самалёцікі-цацкі самі лётаць не ўмеюць.

— Тата, а людзі ўмеюць лётаць?

— Так. На самалётах...

— Не, самі?

— Самі? — тата задумаўся. — Не, мабыць. У людзей жа няма крылаў.

Я падумаў, што добра было б, калі б у людзей былі крылы. Падумаў — і набег, размахваючы рукамі. Я ўяўляў, што лячу.

У той жа дзень пад вечар я падкаціў на новым веласіпедзе да майго сябра Юркі, спыніўся і глыбока ўздыхнуў, паказваючы, што ўжо наездзіўся ўдосталь.

Юрка, як заўсёды, нешта майстраваў: стругаў нажом нейкую палачку. Ён быў ганаровы чалавек і таму зрабіў выгляд, што ані на мяне, ані на мой ровар не звяртае ніякай увагі. У самога Юркі веласіпеда не было.

— Прывітанне! Глядзі, мне веласіпед купілі, — пахваліўся я. — Калі хочаш, дам пакатацца, — я злез з ровара і пасунуў яго ў бок Юркі.

Калі ён сеў на ровар, я спытаў:

— Як ты думаеш, людзі ўмеюць лётаць?

— Калі добрыя крылы зрабіць — чаму не, — упэўнена адказаў ён.

— Давай зробім крылы, — запрапанаваў я.

— Давай. Але як выпрабоўваць?

— Прымацуем іх да веласіпеда.

— Праўда, — уцешыўся Юрка. — Гэта можна.

Праз тыдзень усё было гатова.

Я стаяў каля Юркавай хаты і прытрымліваў веласіпед, а Юрка алюмініевым дротам прыкручваў да рамы каля руля вялікія крылы, зробленыя з рэек і абцягнутых поліэтыленам.

З нагоды першай пробы я быў апрануты ў белыя нагавіцы і кашульку, а Юрка вынес старыя матацыклетныя акуляры, выцер іх рукавом і ўручыў мне.

— Ну, як? — я надзеў акуляры, паправіў іх, як трэба, і стаў у позу першаадкрыўцы.

— Як лётчык з карцінкі... — ацаніў Юрка.

— Ну, паехалі на горку, там лепш за ўсё выпрабоўваць, — самаўпэўнена сказаў я.

З вяршыні горкі востра ўніз збягала асфальтовая сцяжына, яна вяла проста да катлоўні, дзе чарнела вялізная горба вугалю.

— Вось гэта палігончык, — сказаў Юрка, дапамагаючы мне сесці на веласіпед. — Толькі глядзі, не зачапі каленямі крылы, калі будзеш разганяцца.

(Працяг на стар. 10)

В. Костылеў

## ЗВІРБУЛІС

**Пачатак у папярэднім нумары.**

Неяк ноччу разгулялася навальніца: грымела, бліскала.

Недалёка ад дачы маланка ўдарыла ў дрэва: пачуўся рэзкі сухі трэск. Жонка і сын у спалоху прачнуліся. Я прысароміў іх:

— Падумаеш, навальніца. Спіце.Ранічкай — на пляж. Пасля начной навальніцы абавязкова будзе сонечнае надвор'е. Вунь як спакойна спіць Звірбуліс. Ды і суседзі-вераб'і схаваліся пад страху — таксама спяць, ні гуку.

Супакоіў. Заснулі жонка з сынам. А мне не спіцца, ды і Звірбуліс пачаў на далоні таптацца, вось-вось успырхне. І суседзі-вераб'і пад страхой перамаўляюцца ўсё часцей і гучней. Вось яны зусім трывожна зацвыркалі, зляцелі з-пад страхі, тыцкаюцца дзюбкамі ў аконнае шкло. Мой Звірбуліс саскочыў з далоні — і да акна, пра нешта перагаварыў па-вераб'інаму і прыляцеў да мяне на далонь — балюча дзяўбе. Такога з ім ніколі не было.

Зноў кошка? А можа, вывалілася птушаня? Я выйшаў на ганак, Звірбуліс — услед. Убачыўшы мяне, вераб'і адляцелі ад акна, успырхнулі нада мною, неспакойна, нават заклікальна закрычалі і адразу ж зніклі з вачэй. Паляцеў і мой Звірбуліс.

І тут патыхнула едкім дымам. Я завярнуў за рог дачы — якраз у тым баку ўдарыла маланка — і здзівіўся: высокая сасна, метраў за дваццаць ад нашага жылля, была ахоплена полымем. Палаючыя галіны падалі на зямлю: агонь перакідваўся на кусты. Варта падзьмуць ветру — і сук заляціць на страху.

Я кінуўся будзіць сваіх: трэба ратаваць дачу. Сын палез на страху, а жонка пабегла да бліжэйшых дач — клікаць на дапамогу! Я накідваў коўдру на языкі полымя, што скакалі па зямлі. Азіраючыся на сына, падбадзёрваў яго:

— Трымайся! Вунь іскры ляцяць на цябе! Скідай сарочку, тушы!

Дапамога трапіла ў час: у мяне коўдра была ў вялізных дзірках, амаль уся дымілася.

Змяшаліся латышская і руская мовы, у ход пайшло ўсё, чым можна было тушыць агонь: старая вопратка, рыдлёўкі, сякеры. Агонь прытоптвалі нагамі, залівалі вадою.

За гэтымі хваляваннямі і трывогай не заўважылі, што навальніца даўно прайшла. Неба насвятлела. Калі была патушана апошняя іскрынка, усе ўбачылі, што на пасвятлелым небе ствол спаленай маланкай сасны быў яшчэ чарнейшы, а попельны гар пізам дабраўся да кустоў бэзу.

— Палдзіес... дзякуй вам, сябры, — сказаў стары латыш, паціскаючы па чарзе рукі жонцы, сыну і мне. — Лес наш выратавалі, дачы нашы выратавалі...

— Што вы! Гэта вам дзякуй, — казаў я людзям, якія сабраліся вакол нас.

(Працяг на стар. 10)



Ева Тамашук, вучаніца 4 класа з Трасцянкі, добра вучыцца і любіць беларускую мову. Фота Я. Чэрнякевіч.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Віктар Швед

### МАТУЛЯ ВАРЫЦЬ КАШУЛІ

**У чорным сагане вялізным,**
**У кухні ранкам, на пліце,**
**Мама выварвае бялізну.**
**Пікавасць хлопчыка гняце.**

**— Што варыш, мілая матуля, —**
**Раптам пытае Васілёк.**
**— Твае ўсе брудныя кашулі**
**і твае штонікі, сынок.**

**— Маіх кашуль, ды яшчэ з брудам,**
**Матуля лепей не вары.**
**І так я ясці іх не буду,**
**І не прасі, і не свары.**

### ХОВАНКІ

**У хованкі гуляюць дзеці,**
**У хаце гоман, балаган.**
**Дзвярыма шафы скрыпнуў Пеця,**
**Пад ложак ціснецца Іван.**

**Аля схавацца недзе хоча,**
**Ды дзе — не ведае сама.**
**Заплюшчыла раптоўна вочы**
**І крыкнула: — Мяне няма!**

 **ПАГЛЫБЛЯЙ**  **СВАЕ ВЕДЫ** 

## ЕШЦЕ ЧАСНОК

Часнок вядомы чалавецтву даўно. У Старажытным Егіпце яго лічылі каштоўным лякарствам і дадаткам да стравы, уключалі ў рацыён будаўнікоў пірамід.

Аб часнаку ёсць і ўпамінанне ў старажытнаіндыйскіх кнігах. Яго шырока выкарыстоўвалі для прафілактыкі і лячэння заразных хвароб, прымянялі пры ўкусах змей, скарпіёнаў і бешаных сабак.

Па загаду імператара Нерона часнок рэгулярна атрымлівалі легіянеры, бо лічылася, што яго сістэматычнае ўжыванне спрыяе павышэнню баявых якасцей воінаў.

Аб часнаку, як аб цудоўным сродку для лячэння кішэчных хвароб, гаварыў слаўны лекар і вучоны Сярэдняй Азіі Ібн Сіна (Авіцэнна).

Славяне ведалі часнок яшчэ ў IV—V стагоддзях.

Сярод гародніны часнок вылзяляецца значнай колькасцю нікатынавай кіслаты і вітаміна $B_6$. Ён найбагацейшы з усёй гародніны жалезам, цынкам, марганцам, ёдам і іншымі мікраэлементамі. Ёду, напрыклад, у часнаку ў тры разы больш, чым у цыбулі. Спецыяльны пах і смак часнаку залежыць ад знаходжання ў ім эфірнага алейку, у склад якога ўваходзяць спалучэнні серы, якія згубна дзейнічаюць на мікраарганізмы. Таму цёрты часнок і сок з яго прымяняюцца для гаення гнойных ран і апаранняў. Памагае часнок і пры кашлях і ангінах.

Для таго, каб ачысціць рот ад шкодных бактэрый, дастаткова пажаваць часнок некалькі хвілін. Ён узмацняе дзёсны, змяншае іх запаленне і кровацечнасць, а з'едзены з ежай, спыняе гнільныя працэсы ў страўніку.

Наогул часнок паляпшае апетыт, прысяпшае траўленне, спрыяе выдаленню жоўці ці халестыролю з арганізму, абніжае крывяны ціск.

Карысна есці часнок і пры бранхітах і бранхітнай астме.

У народзе часнок добра вядомы як першы сродак супраць глістоў (рабакоў) у дзяцей.

Добра вядома вучоным уздзеянне часнаку супроць рака. Існуюць сучасныя статыстыкі, якія пацвярджаюць, што ў краінах, дзе часнок ужываецца сістэматычна ў харчаванне, захворванні на рака здараюцца значна радзей.

Але трэба памятаць, што нельга есці часнаку пры вострых захворваннях страўніка, печані, нырак і мачаводных шляхоў.

(Працяг са стар. 9)

## У ДЗЯЦІНСТВЕ Я ЛЁТАЎ...

— Добра! Папхні! — я ўвесь напружыўся за рулём.

Але ўнізе на сцежцы зусім недарэчна з'явілася бабулька. Яна несла вялікую сумку, таму ішла вельмі павольна.

— Бабуля! Бабуля! — голасна закрычаў Юрка. — Сыдзіце, тут ідуць выпрабаванні!

Бабулька працягвала ісці, не звяртаючы ўвагі на крык.

— Не чуе... Мабыць, глухая... Добра, я думаю, ты да бабулі ўзляціш. Пастарайся вышэй узляцець, каб не зачапіць яе.

— Вядома!

— Ну, пайшоў! — Ён папхнуў мяне ў спіну, і я, набіраючы хуткасць, панёсся ўніз. Поліэтэлен на крылах залапатаў ад ветру. Усё перад вачыма ў мяне замігатала, але ні я, ні веласіпед не ўзляцелі.

Спачатку адпала адно крыло. Я з цяжкасцю выпрастаў руль, ледзь не зачапіўшы другім крылом спалоханую бабульку, але калі адарвалася і другое крыло, мяне панесла проста на кучу вугалю. Ад страху я закрыў вочы — і паляцеў: урэзаўся ў агарожу, пераляцеў праз руль і... апынуўся на горбе вугалю, лежачы на спіне. Акуляры боўталіся на шыі. Юрка набліжаўся да мяне, трымаючы ў руках абодва паламаныя і парваныя крылы.

Я трошкі ўзняўся і агледзеў сябе: з белага я ператварыўся ў чорнага, на падрапаным калене была кроў. Пад сабою я намацаў нешта цвёрдае: гэта аказаўся веласіпедны званок.

На наступны дзень я выйшаў на вуліцу і накіраваўся да Юркі. Юрка быў на месцы: сядзеў на парозе і падцягваў спіцы пакрыўленага кола.

— Прастуецца? — пытаюся.

Юрка адмоўна паківаў галавой.

— Ну і няхай, — уздыхнуў я.

— Слухай, — раптам ажывіўся Юрка, устаў і пачаў хадзіць вакол мяне, — калі ровар не направім, давай з яго частак верталёт будаваць. Я тут і кніжку адпаведную знайшоў, у ёй усё ёсць...

— Давай, — сумна згадзіўся я, драпаючы залеплены пластрам гузак.

Над намі з аднаго даху на другі пераляталі галубы...

(Працяг са стар. 9)

## ЗВІРБУЛІС

І тут я ўспомніў вераб'ёў: вось хто папярэдзіў аб пажары! Няўжо яны хваляваліся не толькі за свайго суродзіча Звірбуліса, але і за нас, людзей, што часам прыносілі ім крошкі са свайго стала?

Калі я расказаў жонцы і сыну аб высакародных вераб'ях заснуць яны не маглі, усё чакалі — вось-вось з вераб'ямі вернецца Звірбуліс. Ды намарна! Відаць, лясны пажар адбіў у іх ахвоту сяліцца ў ранейшым месцы: цэлы тыдзень патыхала гарам, а вецер разносіў па наваколлі попел. Мабыць, наш Звірбуліс, далучыўшыся ў бядзе да чарады, прывык да яе. Ды і сапраўды: не з людзьмі ж яму, вераб'ю, жыць-векаваць, а з такімі, як ён сам, птушкамі...



Томэк Аўсенюк з Бельска яшчэ вельмі маленькі, яму няма трох гадоў, а ўжо вельмі цікавіцца рознымі машынамі. Асабліва любіць катацца на самалётах, калі ў Бельск завітае „вясёлае мястэчка". Фота Жэня Мартынюк.

## ЗАГАДКІ

### ПРА СТЫХІЮ І З'ЯВЫ ПРЫРОДЫ

1. Ехала пані ўначы, пагубіла ключы, сонца ўхапіла, а месяц бачыў.
2. Зара-заранца, красная дзявіца, па небе хадзіла, ключы згубіла, як сонца ўзышло, і ключы знайшло.
3. Прыйшоў вол, выпіў вады дол.
4. Семсот тапароў зрубілі хатку без вуглоў.
5. Сівое сукно лезе праз акно.
6. Ляцеў птах, на ваду — бах. Вады не скалыхнуў, на дно патануў.
7. Ляцяць птушкі без крыл, а садзяцца без ног.
8. Ляціць — маўчыць, ляжыць — маўчыць, а памрэ, дык зараве.
9. На двары гарою, а ў хаце вадою.
10. Па калені вады, а не нап'ешся.
11. Белае палатно, а пад ім халадно.
12. Зімой грэе, вясной тлее, улетку памірае, увосень аджывае.
13. Прыляцела пава, сярод вара ўпала, прыляцеў каптур, яе стуль сапхнуў.
14. Паложана пячаць, што без жалеза не пачаць.
15. Днём акно разбіта, а за ноч устаўлена.
16. На агні не гарыць, на вадзе не тоне і па саломе не шасціць.
17. Гукнеш — дык адгукаецца, ад людзей хаваецца.
18. Жыве без цела, гаворыць без языка, ніхто не бачыць, а ўсякі чуе.

### АДГАДКІ

*1—2. Раса. 3—5. Мароз. 6—13. Снег. Горы пакрытыя снегам. 14 Лёд. 15. Лёд у палонцы. 16. Цень. 17—18. Рэха.*

**(Загадкі раю выкарыстоўваць у час школьных вечароў).**

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* * *

**Прыйшлі кошка з мышкай у пясткарню.**

**— Дайце мне, калі ласка, кавалак торта і скібку пірага з сырам, — заказала мышка.**

**— А вам што? — пытаецца афіцыянтка ў кошкі.**

**— Дзякую. Мне нічога, — адказвае кошка. — Я пачакаю, пакуль мышка наесца і тады з'ем яе.**

* * *

**Дзядзька Іван убачыў на дрэве ў сваім садзе малога Міхалка і разззлаваўся.**

**— Ты што гэта сабе думаеш? Чужыя яблыкі красці?**

**— Не, не, — тлумачыцца Міхалка. — Тут адзін яблык зваліўся на зямлю, дык я хацеў яго павесіць.**

## -А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А-



**Размалюй карцінку каляровымі алоўкамі. А цяпер падумай як у вас збіралі ўраджай багатай восені і напішы аб гэтым у „Зорку". Найцікавейшыя пісьмы будуць надрукаваны.**



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Piątek 4 X** — 9.35 Domowe przedszkole. 10.00 DT. 10.10 Film dla II zmiany: „Kryptonim Trianon" (9). 16.25 Program dnia. DT. 16.30 Dla młodych widzów: „Majsterklepka". 16.55 Dla dzieci: „Piątek z Pankracym". 17.20 DT. 17.30 Studium. 18.00 Bez próby. 18.30 Studium. 19.00 Dobranoc: „Na huśtawce". 19.10 XI Międzynarodowy Konkurs Pianistyczny im. F. Chopina — Studio Konkursowe. 19.30 Dziennik. 20.00 Monitor Rządowy. 20.30 „Kryptonim Trianon" (9) — film tv ZSRR. 21.40 DT. 22.00 Interstudio. 23.00 Co nam zostało z tych lat. 23.40 DT. 23.45 Proponujemy, zapraszamy.

**Sobota 5 X** — 8.55 Program dnia. 9.00 Dla młodych widzów: Sobótka+„Domek na prerii" — film USA. 10.30 DT. 10.40 So się dzieje? 11.00 Bariery. 11.15 Na krawędzi słowa. 11.35 Lista przebojów — propozycje. 11.45 Służyli wsi i narodowi. 12.15 Siedem anten. 13.00 Sobota w Zamku Książąt Pomorskich. 13.25 Galeria 37 milionów. 13.55 Sobota w Zamku Książąt Pomorskich. 14.00 Konto „M". 14.25 Azymut. 14.50 Sobota w Zamku Książąt Pomorskich. 15.00 DT. 15.05 Antologia dramatu powszechnego: G.B. Shaw „Profesja pani Warren". 16.40 Sobota w Zamku Książąt Pomorskich 16.50 Kram. 17.15 Sobota w Zamku Książąt Pomorskich. 17.25 Losowanie toto-lotka. 17.30 I liga piłki nożnej. 18.20 Sobota w Zamku Książąt Pomorskich. 18.30 Marszałkowie Sejmu. 19.00 Dobranoc: „Bolek i Lolek". 19.10 Z kamerą wśród zwierząt. 19.30 Dziennik. 20.00 Meeting — progr. public. 21.30 Czas. 22.15 Wiadomości sportowe+ME w siatkówce. 23.10 DT. 23.20 Jezioro śmierci — sensac. film tv ang.

**Niedziela 6 X** — 8.15 Program dnia. 8.20 Tydzień. 9.00 Dla młodych widzów: Teleranek+film z s. „Latający Czestmir" odc. 6 — ost. 10.30 DT. 10.35 „Na ziemi i w głębinach" odc. 8 film. dokum. tv hiszp. 11.05 Zajechał wóz do Siewierza. 11.30 „Lato leśnych ludzi" odc. 3 film TP. 12.30 Tu, w tym samym miejscu. 13.00 Tam, gdzie rośnie wanilia. 13.45 Koncert życzeń. 14.30 Zajechał wóz do Siewierza. 15.00 DT. 15.05 Teatr dla dzieci: Bożena Winnicka „Król i sroka". 16.15 Zajechał wóz do Siewierza. 16.50 Popołudnie z... 18.20 Antena. 19.00 Wieczorynka: „Mali mieszkańcy wielkich gór" 19.30 Dziennik. 20.00 Powrót do Edenu — odc. 5 film tv austral. 20.45 Pegaz. 21.25 Jutro w programie+wyniki totalizatora. 21.30 Sportowa niedziela+ME w siatkówce. 22.45 Leksykon polskiej muzyki rozrywkowej — litera „M". 23.20 DT.

**Poniedziałek 7 X** — 16.25 Program dnia. DT. 16.30 Dla młodych widzów: Encyklopedia TDC — hasło „Ziemia". 16.55 Dla dzieci: Zwierzyniec. 17.20 DT. 17.30 „Stawka większa niż życie" (6) — serial sensacyjny TP. 18.30 Echa stadionów. 18.50 Wystąpienie ambasadora NRD. 19.00 Dobranoc: „Beztroski konik". 19.10 XI Międzynarodowy Konkurs Pianistyczny im. F. Chopina. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 Teatr Telewizji: Aleksander Ścibor-Rylski — „Rodeo". 22.00 DT. 22.20 Magazyn Literacki. 22.50 DT.

**Wtorek 8 X** — 9.30 Domator — Omówienie programu. 9.35 Domowe przedszkole. 10.00 DT. 10.10 Film dla II zmiany: „Oshin" (5) — serial japoński. 11.10 Gość programu. 11.20 Domator — Bądź piękną. 11.30 Koń — mój przyjaciel. 16.25 Program dnia. DT. 16.30 Dla dzieci: Kameleon. 16.55 Dla dzieci: Fasola. 17.20 DT. 17.30 Gazeta Rolnicza. 18.00 Informator Wydawniczy. 18.15 Morze wokół nas (5). 19.00 Dobranoc: „Kaczanek i Kukurydzka". 19.10 Klinika Zdrowego Człowieka. 19.30 Dziennik. 20.00 Czas wyborów. 20.30 Oshin" (5) — serial japoński. 21.30 DT. 21.50 Wielka siarka prof. Pawłowskiego. 22.25 Herbert von Karajan w Bazylice św. Piotra w Rzymie. 22.55 DT. 23.00 Program na jutro.

**Środa 9 X** — 9.30 Domator. 9.35 Domowe przedszkole. 10.00 DT. 10.10 Film dla II zmiany: „Jak świat traci poetów" — film CSRS. 11.40 Domator — Zielono mi. 11.50 Świat szarej komórki — film dok. 16.25 Program dnia. DT. 16.30 Krąg. 16.55 Dla dzieci: Tik-Tak. 17.20 DT. 17.30 1/8 Finału Pucharu Polski w piłce nożnej. 18.20 Losowanie Express Lotka i Małego Lotka. 18.30 Archiwum XX wieku. 19.00 Dobranoc: „Porwanie Baltazara Gąbki". 19.10 Studio Konkursowe — XI Międzynarodowy Konkurs Pianistyczny im. F. Chopina. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 Film fabularny. 21.45 DT. 22.05 Trybuna Sejmowa. 22.50 DT. 22.55 Jutro w programie.

**Czwartek 10 X** — 9.30 Domator. 9.35 Domowe przedszkole. 10.00 DT. 10.10 Film dla II zmiany. 11.30 Domator — Apteczka domowa. 11.20 Historia najbliższa. 16.00 Program dnia. DT. 16.05 Tydzień na działce. 16.30 Dla młodych widzów: „O mnie, o Tobie, o nas" — magazyn szkolny oraz film z serii: „Był sobie człowiek". 17.20 DT. 17.30 Mieszkać. 17.50 Człowiek dla człowieka. 18.05 Kościuszkowska legenda — wojskowy program historyczny. 18.30 Sonda — Mikrochirurgia. 19.00 Dobranoc: „Wiercik w elektrowni". 19.10 Studio Konkursowe — XI Międzynarodowy Konkurs Pianistyczny im. F. Chopina. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 Film fabularny. 21.25 DT. 21.45 Klub Międzynarodowy. 22.25 Kronika Mistrzostw Świata w gimnastyce artystycznej. 23.05 DT. 23.10 Jutrow programie.

## КІНО

**Bielsk Podl.** Powrót Jedi — USA 7—13.

**Czeremcha** Mgła — pol. 9. Policjantka — fr. 12—13.

**Hajnówka** Powrót Jedi — USA 7—13.

**Michałowo** Lekkie obrażenia ciała — węg. 8—9. Pobojowisko — pol. 10—11. Ja cię trzymam, ty mnie trzymasz za bródkę — fr. 12—13.

**Mielnik** A stawką jest śmierć — fr. 9—13.

**Milejczyce** Milioner — pol. Spotkanie na Atlantyku — pol. 9—13.

**Nurzec** Skradziona kolekcja — pol. 9. Legenda — pol. 10—11. Klincz — pol. 12—13.

**Rajsk** Znachor — pol. Zapis zbrodni — pol. 9—13.

## ШТО-ДЗЕ-КАЛІ

### У ЛЕСЕ ЗА МІХАЛОВАМ

Затрымаўся я на скрыжаванні Ялоўка—Беласток цераз Міхалова за дарогай у Майдан. Зазлянуў я ў лес. Думаў, мо дзе які баравік знайду. І ўбачыў Цэлыя горбы металалому, паіржавелыя банкі па кансервах і алейнай фарбе, кавалкі шкла. бутэлькі па алею, кавалкі паперы і фоліі. Былі таксама часткі трактара або самахода-грузавіка. На абочыне ляжалі яшчэ нераспакаваныя мяшкі з разбітай керамікай. Усё гэта знаходзілася на кароткім адрэзку ля спамянутай дарогі ў Майдан.

Гэтак пачынаецца Кнышынская пушча. І, варта дадаць, з боку Міхалова.

На маю думку, варта, каб настаўнікі і вучні з міхалоўскіх школ арганізавалі акцыю „чысты лес". Такія мерапрыемствы кожны год арганізоўваюць Ліга аховы прыроды і рэдакцыя „Газеты Вспулчэснай" у лясах вакол Беластока.

**(яц)**

### НА ВУЛІЦЫ Ў АРЭШКАВЕ

Вуліца ў вёсцы **Арэшкава** ў Гайнаўскай гміне мае ў шматлікіх месцах ухабісты брук. Найгоршы адрэзак вуліцы ад скрыжавання вуліцы з дарогай у бок Лазіц да другога яе скрыжавання з дарогай у Гайнаўку.

Раўчукі, якія перасякаюць спамянутую вуліцу, неабходна засыпаць жвірам. А так вадзіцелі аўтамашын ломяць дэфіцытныя рэсоры. Адным словам, бяда ды й годзе.

Варта, каб солтыс і жыхары Арэшкава паклапаціліся аб вуліцы ў сваёй прыгожай вёсцы. І тады ездзіць будзе беспячней.

**(яц)**

### КАМУ НЕПАТРЭБНЫ ЗЛОМ?

У вёсцы Курашава насупраць школы рака Локніца яшчэ не ўрэгулявана. Тут яшчэ прыгожа і прыемна. Шмат рыбы ў вадзе і птушак у паветры. Аднак летам зайсці сюды непрыемна. Ля самага берага заколля ракі пры дарозе ў Вольку ляжыць вялікая горба злому, ужо моцна паіржавелага. Збіралі яго вучні ў мінулым навучальным годзе. А дарослыя ніяк не могуць забраць гэты злом на нейкі пункт скупкі і адвезці ў гуту. І тут крызіс?

**А.З.**

### БЕЛЬСКІЯ РЫБАЛОВЫ

У Бельску працуе Саюз вудзільшчыкаў, які налічвае 726 членаў. Любяць людзі ў свабодны час пасядзець над рэчкаю з вудачкаю, каб злавіць вялікую рыбу. Многа бельскіх вудзільшчыкаў займаецца аховаю рэк і барэцьбой з браканьерамі, якія бяздумна нішчаць і рыбу, і прыроду. Бельскім саюзам вудзільшчыкаў кіруе Станіслаў Багнюк, а скарбнікам і кіраўніком стражы аховы прыроды з'яўляецца Мікалай Гаўрылюк. Да стражы аховы прыроды ў Саюзе належыць 17 чалавек, 11 з іх — вельмі актыўныя.

Вялікі актывіст Грыша Кавальскі ўвесь свой свабодны час аддае ахове водаў ракі Нарвы і барацьбе з браканьерамі.

**Андрэй Гаўрылюк**

### КРАПІВА І АСОТ У РОСТ ЧАЛАВЕКА

У Нараўцы насупраць школы стаяць дзве крамы. За імі млын і магазін. Усё гэта над рэчкаю Нараўкай. У школе начуюць вандроўныя групы моладзі. Турысты плаваюць па рэчцы на лодках. І ўсе яны бачаць горбы смецця, якое выкідаюць некаторыя жыхары, якраз тут каля рэчкі. Апрача смецця тут шмат крапівы і асоту ў рост чалавека.

Ці ГС не можа прывесці гэта месца ў парадак? Можа можна нават абгарадзіць?

**Асот**




Ідзе падпіска друку на 1986 год. Не забудзь выпісаць „Ніву"! Гадавая падпісная цана на наш тыднёвік — 520 зл., паўгадавая — 260 зл., квартальная — 130 зл.

Падпіску ад устаноў і прадпрыемстваў, якія знаходзяцца ў гарадах — сядзібах аддзелаў RSW „Ruch" — прымаюць выключна гэтыя ўстановы.

Ад індывідуальных падпісчыкаў і прадпрыемстваў з вёскі падпіску прымае пошта.

Індывідуальныя падпісчыкі з гарадоў, якія з'яўляюцца сядзібамі аддзелаў RSW, робяць падпіску ў паштовых установах на спецыяльных бланках (na konto RSW „Ruch").

### МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132.

У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5018-24325-151-6787.

Паведамляем таксама, што цэнтры збірання экспанатаў для музея знаходзяцца ў наступных месцах:

у Пачатковай школе ў Рыбаках, гміна Міхалова,
у будынку былога ПЗГС у Гайнаўцы,
у клубе БГКТ у Бельску, вуліца Міцкевіча 50/54,
v клубе БГКТ у Гайнаўцы, вуліца Вызвалення 6,
у Гмінным камітэце ПАРП у Мілейчыцах,
у Саколцы, вуліца Варынскага 1,
у ГП БГКТ у Беластоку, вуліца Варшаўская 11.

Чакаем экспанатаў або інфармацыі аб месцы іх знаходжання.

**Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej i Ruchu Rewolucyjnego, 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6. Тэлефон 28-89.**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ

**Хай заўжды будзе сонца! ✱ У пошуках беларускага ✱ А хто зловіць мой вяночак? ✱ Герой з Зуброў ✱ У черомхаўскім „Паўшэхным" ✱ Аўрора фантазіруе ✱ Дажынкі ✱ Закапчэнне „Першага дня ў школе" ✱ Беларускі фальклор ✱ Кладоўка вітаміну С ✱ Якія газеты можна выпісаць з БССР ✱ Сардэчныя тайны ✱ Куток філатэліста ✱ „Зорка" ✱ Што-дзе-калі ✱ Пагоня Уладзіміра Гайдука за „Бізонам" ✱ Адборны гумар**

## — КАЛЯНДАР —

**220 гадоў назад**

7.10.1765 нар. М. К. Агінскі, польскі кампазітар.

**75 гадоў назад**

8.10.1910 пам. М. Канапніцкая, польская пісьменніца.


Ніва

**ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА**

**Галоўны рэдактар**
**Георгій Валкавыцкі**
**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**„Niwa"**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok skr. poczt. 149**
**tel. 232-41**

Wydawca Białostockie Wydawnictwo Prasowe. 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

Druk Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku. Cena prenumeraty kwart. 130 zł, półr. 260 zł, rocznej 520 zł

WARUNKI PRENUMERATY:

1. dla osób prawnych — instytucji i zakładów pracy:
   - instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miastach wojewódzkich i pozostałych miastach w których znajduje się siedziba Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" zamawiają prenumeratę w tych Oddziałach:
   - instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" i na terenach wiejskich opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli;
2. dla osób fizycznych — indywidualnych prenumeratorów:
   - osoby fizyczne zamieszkałe na wsi i w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli.
   - osoby fizyczne zamieszkałe w miastach — siedzibach oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych nadawczo-oddawczych właściwych dla miejsc zamieszkania prenumeratora. Wpłaty dokonują używając „blankietu wpłaty" na rachunek miejscowego Oddziału RSW „Prasa-Książka-Ruch"
3. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie Nr 1153-201045-139-11. Prenumerata ze zleceniem wysyłki za granicę pocztą zwykłą jest droższa od prenumeraty krajowej o 50 proc. dla zleceniodawców indywidualnych i o 100 proc. dla zlecających instytucji i zakładów pracy.

Termin przyjmowania prenumeraty na kraj i za granicę:
- do dnia 10 listopada na I kwartał, I półrocze roku następnego oraz cały rok następny.
- do dnia 1 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty roku bieżącego

Zam. 1798/85 r. Nakład 5.000. G-4.

## ІНТЭРВ'Ю З ЖЫВЁЛЬНЫМ СВЕТАМ

Барана спыталі:
— Што новенькага?
— Вароты, — адказаў баран.

*

— Як вы лічыце, — спыталі Мядзведзя, — што галоўнае ў вашым жыцці?
— Галоўнае, — адказаў Мядзведзь, — мець лапу.

*

Вароне задалі пытанне:
— Якія вашы намеры ў адносінах да Белай Вароны?
— Ачарніць яе, — коратка адказала Варона.

*

— Што ў вас пакідае найбольш непрыемнае ўражанне? — спыталі Слана.
— Мышыная мітусня, — не задумоўваючыся, адказаў Слон.

*

— Ці праўда, — спыталі Асла, — што вы самая ўпартая жывёліна на свеце?
— Не зыйсці мне з гэтага месца! — пацвердзіў Асёл.

*

— Як вы адносіцеся да свайго мужа? — спыталі Рыбу-пілу.
— Ну як можна адносіцца да гэтай калоды? — пытаннем на пытанне адказала Рыба-піла.

*

Матыля спыталі:
— Якая ваша самая забаўная слабасць?
— Люблю пажыць! — адказаў Матыль-аднадзённік.

*

— Выбачайце, — спыталіКата, — ці праўды ў сакавіку месяцы?...
— Якая лухта! — прашыпеў Кот. — Сакавік месяц не выключэнне.

**В. Тонкаў**

З чаго смяюцца суседзі.



Без слоў.

# НІУКА



Замалёўка з натуры.

## АБРАЗА ГОНАРУ

Адвакат: — Дык вы судзіцеся за абразу гонару? Што ж вам сказаў ваш сусед?

Скаржнік: — Я не чуў, што ён там мармытаў.

Адвакат: — Адкуль жа вы ведаеце, што ён хацеў абразіць вас?

Скаржнік: — Вядома, хацеў. Ён яшчэ ніколі пра мяне не сказаў добрага слова.

## МІКОЛКА

На вёсцы ў дзеда Міколка разглядвае стары іржавы нож і кажа:
— Добры чалавек даўно б яго выкінуў!

## БАБЁР-КРЫТЫК

Перад звярамі на ўвесь бор
Крытыкаваў Ваўка Бабёр.
Ды раптам тут з'явіўся
Воўк —
Адразу крытык той замоўк.

**Пятро Перап**



Made in Zadrypanka.



Пяць дзён не працуе, а два адпачывае.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Турысцкая група аглядае руіны старога замка, ад якога засталіся адны сцены з прабоінамі — слядамі стральбы са старых гармат. Убачыўшы ўсё гэта, маленькі хлопчык пытае бацьку:
— Тата, гэта тое самае месца, дзе наша мама вучылася вадзіць машыну?

* * *

Муж і жонка глядзяць тэлевізійны фільм.
— Забойца напэўна Ален Дэлон, — гаворыць муж.
— Ды што ты, дарагі! Ён наогул не іграе ў гэтым фільме.
— Я так і ведаў, што ў яго знойдзецца дасканалае алібі.

* * *

Шатландзец купляе ў магазіне косць для сабакі.
— Што яшчэ жадаеце? — пытае прадаўшчык.
— Загарніце пакупку ў сённяшнюю газету.

## У ЗАДРЫПКОЎСКІХ

Задрыпкоўская ўпершыню вядзе аўтамабіль сама. Унізе раптам нешта грукнула. Спыніўшы машыну, Задрыпкоўская выяўляе пад ёй масіўны металічны прадмет. З вялікім намаганнем ёй удаецца ўпіхнуць яго ў багажнік. Дома яна расказвае аб усім мужу.
— Нічога страшнага, — супакойвае яе муж. — Аднак накрыўку ад каналізацыйнай студні ты павінна вярнуць на месца.

### З „Весніка Задрыпоніі"

## ДЛЯ ВАС, ЖАНЧЫНЫ

Новы від паслуг уведзены ў салоне прыгажосці „Фіялка": калі кліентцы не падабаецца прычоска, зробленая ёй, яна сама можа зрабіць дакладна такую абслугоўваючаму яе майстру.

## БОНТОН

Набраўшы патрэбны вам нумар тэлефона, прывітайцеся, пагаварыце аб пагодзе, даведайцеся, як здароўе, і толькі пасля ўдакладніце — ці той нумар вы набралі.





І такое бывае.



Дазволены прыём?

# Курёзы

## НА ВЫСОКІМ ПРАФЕСІЙНЫМ УЗРОЎНІ

Усе італьянскія магі і ілюзіяністы сабраліся ў Неапалі, каб выбраць старшыню свайго „цэха". Яны выбралі 48-гадовага Ранальда Росі, найбольш вядомага і паважанага з ілюзіяністаў і фокуснікаў Італіі.

Каб ніхто не махляваў (а такія выпадкі ўжо здараліся), галасаванне праходзіла пад строгім наглядам вопытных майстраў па спрытнасці рук. Вынікі выбараў пацвердзілі высокае майстэрства італьянскіх фокуснікаў і іх вернасць сваёй справе: удзел у галасаванні бралі 601 чалавек, а бюлетэняў урна выявіла 733.

## ПЕРЛЫ ТВОРЧАСЦІ

Адзін амерыканскі настаўнік у штаце Фларыда выявіў у школьных творах сваіх вучняў цікавыя сентэнцыі. Напрыклад, што смерць Фрэнсіса Макомбера „была зваротным пунктам у яго жыцці", а некрануты трапічны лес — „гэта такое месца, дзе рука чалавека ніколі не кранала нагі". Адзін жа з вучняў вытлумачыў: „Розніца між каралём і прэзідэнтам тая, што кароль з'яўляецца сынам свайго бацькі, а прэзідэнт — не".

# Між намі

**Аматараў пляшкі вельмі цяжка вывесці на правільны шлях: яны ледзь трымаюцца на нагах.**